*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 12(120) ◈ 24 сакавіка 1993 г. ◈ Кошт — па дамоўленасці. (Па падпісцы — 80 кап.)

## *25 САКАВІКА — 75 ГАДОЎ З ДНЯ АБВЯШЧЭННЯ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ*

## 26—27 САКАВІКА Ў МЕНСКУ АДБУДЗЕЦЦА ТРЭЦІ З'ЕЗД РЭСПУБЛІКАНСКАГА ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ІМЯ Ф. СКАРЫНЫ

*Сардэчна вітаем дэлегатаў з'езда!*

*ВІКТАР ШНІП*

### 25 сакавіка 1993 г.

*Мы жывём у распятай краіне*
*На крыжы еўрапейскіх дарог.*
*Не патрэбен маскальскі нам бог,*
*Што ляжыць у шкляной дамавіне.*

*Ёсць у нас свае гонар, святыя.*
*Мы — народ, а не быдла, і вам,*
*Чужакі, я павек не аддам*
*Нашых Храмаў крыжы залатыя.*

*Вясні дзень — гэта нашая Воля.*
*Гойны Вецер, што ў полі шуміць, —*
*Ад Пагоні. Нам Вецер любіць,*
*Ён нас кліча змагацца за долю.*

*Мы ламаем сайковыя краты,*
*Мы ідзём да забытых магіл*
*І знаходзім схаваныя ў пыл*
*Дарагія імёны і даты.*

*І вышэюць нябёсы над намі,*
*І сьвятлеюць анёльскім вакном.*
*Прывыкаем пацíху адно*
*На каленях стаяць толькі ў Храме.*

*Шчэ далёка да Волі краіне,*
*Хоць і ёсць свая мова і Бог...*
*Я малюся распятай Айчыне*
*На крыжы еўрапейскіх дарог.*

## БНР: Трэйцяя Устаўная Грамата

Год назад народы Беларусі разам з народамі Расіі скінулі ярмо Расійскага царызму, які найцяжэй прыціснуў быў Беларусь; ні пытаючыся народу, ён укінуў наш край у пажар вайны, якая чыста зруйнавала гарады і вёскі беларускія. Цяпер мы, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, скідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасьці, якое гвалтам накінулі расійскія цары на наш вольны і незалежны край. Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнаю і вольнаю дзяржаваю. Самі народы Беларусі, у асобі свайго Устаноўчага Сойму, пастановяць аб будучых дзяржаўных зьвязях Беларусі.

На моцы гэтага трацяць сілу ўсе старыя дзяржаўныя зьвязі, якія далі магчымасьць чужому ўраду падпісаць і за Беларусь трактат у Берэсьці, што забівае на сьмерць беларускі народ, дзелючы зямлю яго на часткі. На моцы гэтага ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі мае ўвайсьці ў адносіны з зацікаўленымі старанамі, прапануючы ім перагледзіць тую часьціну Берэсьцейскага трактату, якая датычыць Беларусі, і падпісаць міравую ўмову з усімі ваяваўшымі дзяржавамі.

Беларуская Народная Рэспубліка павінна абняць усе землі, дзе жыве і мае лічбенную перавагу беларускі народ, а ласьне Магілеўшчыну, беларускія часьці Меншчыны, Гродзеншчыны (з Гродняй, Беластокам і інш.), Віленшчыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны, Чарнігаўшчыны і сумежных часьці суседніх губэрняў, заселеных беларусамі.

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі пацьверджае ўсе тыя правы і вольнасьці грамадзян і народаў Беларусі, якія абвешчаны Устаўнай Граматай ад 9 сакавіка 1918 г.

Абвяшчаючы аб незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, Рада яе пакладае свае надзеі на тое, што ўсе любячыя волю народы дапамогуць беларускаму народу ў поўнай меры здзейсьніць яго палітычна дзяржаўныя ідэалы.

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі.

Дана ў Менску-Беларускім
25 сакавіка 1918 г.

### *З ПАХОДНЯЙ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ*

З нагоды 75-ых угодак БНР у «Наша слова» прыйшло віншаванне ад Рады Беларускай Арганізацыі ў Аўстраліі, у якім гаворыцца: «Перасылаем Вам нашыя ўрачыстыя віншаванні з пажаданнямі хуткага здзяйснення тых шляхотных мэтаў Сакавіковых, якія ў сваім сэрцы і душы тоіць кожны беларускі патрыёт... З усходу і захаду варожыя спрадвеку суседзі паняволілі і падзялілі Беларусь паміж сабой ганебным Рыжскім трактатам у 1921 годзе. Аднак жа паходні незалежнасці, запаленыя на І Усебеларускім Кангрэсе, не пагаслі назаўсёды. Полымя незалежнасці было ажыўлена ізноў у форме Слуцкага паўстання ў 1921 годзе і з гонарам данесена да II Усебеларускага Кангрэса 27 чэрвеня 1944 года. Ушаноўваючы 75-ыя ўгодкі 25 Сакавіка 1918 года, будзем імкнуцца, каб данесці ідэал незалежнасці Беларусі да III Усебеларускага Кангрэса ў вольнай і ні ад каго незалежнай Бацькаўшчыне. Няхай жыве Беларуская Народная Рэспубліка і яе змагарны Народ!»

◆

*ВЫЙШАЎ У СВЕТ ПЕРШЫ НУМАР СВАБОДНАЙ БЕЛАРУСКАЙ ГАЗЕТЫ «ГРАМАДА», якую заснавалі асацыяцыя беларускіх выданняў, Саюз юрыстаў Рэспублікі Беларусь, БСДГ. «Наша слова» віншуе ўсіх змагароў за Адраджэнне з выхадам новай дэмакратычнай беларускай газеты.*

◆

*21 САКАВІКА Ў МЕНСКУ адбылася маніфестацыя і ўрачыстае шэсце дэмакратычных сіл з нагоды 75-ай гадавіны БНР. Удзельнікі прайшлі па праспекце Скарыны ад плошчы Незалежнасці да помніка Янку Купалу, дзе адбыўся мітынг і канцэрт.*

## ТАВАРЫСТВА ЗБІРАЕ ПРЫХІЛЬНІКАЎ

«Нацыянальная мова — неацэнны духоўны скарб, які жывой повяззю яднае пакаленні і навекі назапашваецца і адлюстроўваецца ва ўдзячнай памяці, свядомасці і нацыянальнай годнасці нашчадкаў. Страта нацыянальнай мовы народам ідзе поруч з заняпадам нацыянальнай культуры і вядзе за сабою паступовае знікненне народа як самабытнай этнакультурнай супольнасці... Аднаўленне ў грамадстве стаўлення да роднай мовы, як да бацькоўскага дару і матчынай святыні, як да незаменнай і навек падараванай жыццём, з'яўляецца найвышэйшай мэтай стварэння і сэнсам існавання Таварыства беларускай мовы»,— так пачынаецца Статут ТБМ імя Ф. Скарыны, зацверджаны на Устаноўчым з'ездзе ў чэрвені 1989 года. І чатыры гады дзейнасці Таварыства, якія супалі з часам вялікіх перамен у жыцці Бацькаўшчыны, нягледзячы на наяўныя неімаверныя цяжкасці, пацвердзілі, што ТБМ імя Ф. Скарыны апраўдвае сваё найменне і з годнасцю ажыццяўляе статутныя мэты і задачы. Відавочна, не заўсёды так паспяхова, як хацелася б, але ці можа грамадскі рух за лічаныя гады адрадзіць святыні, якія нішчыліся стагоддзямі? Наперадзе гэтулькі нязздзейсненых планаў і нявырашаных задач!

Сёння, падсумоўваючы вынікі дзейнасці Таварыства беларускай мовы, нельга не адзначыць, што роднае слова мае надзейнага абаронцу і самаахвярнага сябра ў асобе шматтысячнай грамады прыхільнікаў Таварыства. Сотні суполак ТБМ падтрымалі ў свой час прыняцце Закона аб мовах, і за два з паловаю гады яго дзеяння Таварыства дамаглося прыкметных поспехаў у яго ажыццяўленні. Развіваецца сістэма нацыянальнай асветы, пераходзіць на рабочую беларускую мову нямала дзяржаўных і грамадскіх устаноў, з'яўляюцца новыя беларускія перыядычныя выданні. І ўсё ж пералічанага так мала! Тым больш важкімі паўстаюць перспектывы далейшай працы ТБМ імя Ф. Скарыны.

Статутныя задачы дзейнасці Таварыства шырока асвятляюцца як у шэрагу афіцыйных дакументаў (заяў, зваротаў, пастаноў і інш.), так і ў шматлікіх аўтарскіх публікацыях на старонках дзесяткаў перыядычных выданняў, сярод якіх адметнае месца займае штотыднёвік ТБМ «Наша слова», а таксама друкаваныя органы некаторых рэгіянальных арганізацый Таварыства беларускай мовы. Азначанае вышэй аказвае немалы ўплыў на працу органаў дзяржаўнай улады і кіравання па ажыццяўленні імі нацыянальнай моўна-культурнай палітыкі, а таксама садзейнічае выхаванню ў грамадзян рэспублікі паважлівага стаўлення да роднай культуры і мовы.

Важкая роля Таварыства, народных дэпутатаў, прыхільнікаў беларускага слова ў тым, што ў рэспубліцы за апошнія гады істотна пашырана нарматыўная аснова развіцця беларускай мовы з прыняццем Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь, законаў аб адукацыі, аб культуры, актаў аб зацвярджэнні дзяржаўнай сімволікі і г. д.

На жаль, у рэспубліцы ёсць рэгіёны, у якіх да гэтага часу занядбана праца па адраджэнні беларускага слова, адсутнічаюць суполкі Таварыства, іншых патрыятычных аб'яднанняў. Пашырыць па ўсіх абшарах Беларусі грамадскую дзейнасць, накіраваную на духоўна-культурнае адраджэнне Бацькаўшчыны, —гэта агульны клопат сяброў Таварыства беларускай мовы, усёй грамадскасці рэспублікі. Сумоўе і суладдзе ў высакароднай дзейнасці ўсёй сябрыны ТБМ — перадумова поспеху ў ажыццяўленні яго статутных задач. Жыццяпіс Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны пацвярджае, што яго дзейнасць служыла і, трэба спадзявацца, яшчэ паслужыць ажыццяўленню высакародных задач Беларускага Адраджэння.

*Яўген ЦУМАРАЎ,*
*сябра Рэспубліканскай Рады ТБМ імя Ф. Скарыны.*

*У суполках ТБМ: насустрач з'езду*

# Справа трымаецца на асобных энтузіястах

***Пярвічная арганізацыя ТБМ створана і ў нас. У яе кіруючы склад уваходзяць адказныя работнікі горада і раёна, а таксама народны дэпутат Рэспублікі Беларусь таварыш Шаўнін А. М. (дарэчы, ТБМ стваралася напярэдадні выбараў у Вярхоўны Савет Беларусі). Ды, на жаль, калі браць па вялікаму рахунку, Слонімская арганізацыя ТБМ пакуль не стала сапраўды творчым асяродкам нацыянальнага Адраджэння. Справа пакуль трымаецца на асобных энтузіястах.***

Найбольшыя здабыткі ў аддзела культуры, які, нягледзячы на свае мізэрныя магчымасці (культура ў нас заўжды была беднай), імкнецца адрадзіць (у большай меры на весцы) багатыя народныя традыцыі. Дзеля гэтага нямала старання прыкладае і дырэктар Цэнтральнай бібліятэчнай сістэмы Рыма Іванаўна Міско. Гэта ж можна сказаць пра Варвашэвіча Мікалая Фёдаравіча, які, па сутнасці, на голым месцы стварыў Беларускі драматычны тэатр. Словам, дзякуй Богу, што ёсць яшчэ ў нас людзі, якія не пазбыліся бацькоўскага, дарагога і любага кожнаму народу.

А як жа на ніве Адраджэння працуюць органы народнай адукацыі? Пакрыўлю душою, калі скажу, што нічога яны не робяць. Тут таксама ёсць свае энтузіясты. У першую чаргу гэта інспектары раённага аддзела народнай адукацыі Скок Зінаіда Іванаўна і Дзятчык Канстанцін Канстанцінавіч. Але ж толькі на энтузіястах далёка не заедзеш. Таму з гораччу даводзіцца канстатаваць такі факт. У адной са школ раёна сам правёў апытванне сярод вучняў восьмага і дзесятага класаў (пакуль ні школу, ні дырэктара не буду называць, бо, на маю думку, у справе Адраджэння яна мае і здабыткі, не горшыя, чым у іншых). Дык вось. Аж сем прадметаў як у восьмым, так і ў дзесятым класах, там настаўнікі вядуць на рускай мове. У той час як вучні займаюцца... па беларускамоўных падручніках. Падобнага, акрамя як у нас, больш нідзе не ўбачыш. Для каго ж ствараюцца законы, чаму кіраўніку дзяржаўнай установы дазваляецца іх не выконваць? Тут, як кажуць, даўно пара і ўладу прымяніць. У некаторых школах горада многія малодшыя класы толькі на паперы сталі беларускамоўнымі. У размовах з настаўнікамі гарадскіх школ чуў прыкладна такое: «Ці вядуць на беларускай мове? Залежыць ад настаўніка, ад ягонай падрыхтаванасці ці ягонага сумлення». Зноў дзейнічае прынцып: як хачу. У суседняй Летуве штрафуюць нават дырэктараў заводаў, калі тыя не выконваюць Закон аб пераводзе справаводства на нацыянальную мову, а ў нас у школах вунь што робіцца — і нічога, сыходзіць.

У ЗША на вуліцах вісяць плакаты: «Амерыку — любі альбо правальвай». Можа, і катэгарычна. Як на погляд беларуса. Але ж жывеш тут — то хоць будзь ласкавы, выконвай законы. Іначай жа — анархія.

З першага верасня 1992 года ў Слоніме працуе школа для дзяцей ваеннаслужачых, якія пераехалі сюды з Германіі. Канешне ж, рускамоўная. А вось брыгада, створаная на базе былой дывізіі, абвешчана... Першай беларускай. А дзяцей афіцэры вучаць для Расіі?

Калі аддзелы народнай адукацыі яшчэ праводзяць пэўную работу па нацыянальнаму адраджэнню, то на пераважнай большасці нашых шматлікіх прадпрыемстваў у справе Адраджэння наогул пакуль мёртвы сезон. Вышэйшае кіраўніцтва ўсё нечага чакае. Вяртання імперыі ці штрафных санкцый? Бо, на жаль, так навучаны. Пара зразумець, хоць частка з іх, відаць, і разумее, што нацыянальнае Адраджэнне — дзяржаўная справа, а не нейкае дзівацкае захапленне асобных энтузіястаў.

Аляксей ЯКІМОВІЧ.

# За волю трэба змагацца

**Калі дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларусі, адсунуўшы ў бок найгалоўнейшыя для выжывання нацыі пытанні аб зямлі, эканоміцы (і нават аб барацьбе са злачыннасцю!), дружна ўзяліся аднаўляць КПБ — КПСС, нават у самых даверлівых людзей адкрыліся вочы на тое, што дзеецца. На Беларусі па-ранейшаму ў пашане і ва ўладзе тыя, для каго карэнны народ гэтай зямлі — быдла, з якім можна не лічыцца, які можна бясконца зневажаць, з пагардлівою ўсмешачкаю загаворваючы зубы: «Ах, якія вы працавітыя, спагадлівыя, рахманыя, талерантныя!» Землякі, калі нехта вам кажа пра талерантнасць, уважліва прыглядзьцеся, што за чарговы хамут чапляюць на вашу шыю. Калі не хочаце зноў «адпачываць» на курортах Калымы ды Ігаркі, думайце, як абараніць нацыянальную годнасць і незалежнасць. Адзін Зянон Пазьняк у полі не воін. Вучыцеся любіць радзіму і ганарыцца сваёй нацыяй у яўрэяў і ў народаў Прыбалтыкі. Вы не горшыя за іншых, але воля будзе ў таго, хто яе адстойвае.**

**Міхась КУРЫЛОВІЧ.**
г. Даўгаўпілс.

# Школа яшчэ гаворыць па-руску

Ідзе вялікая бойка. За Бацькаўшчыну, за памяць, за права беларусаў «людзьмі звацца».

На жаль, наша нацыянальнае бяспамяцтва глыбокае і небяспечнае. Гэта паўсюдна. У тым ліку і ў школе. Сёння ў школе няшмат змагароў за родную мову, за нацыянальнае абуджэнне. Вялікі пласт нацыянальнай інтэлігенцыі — настаўнікі — яшчэ як след не ўсвядомілі, што толькі ў сапраўднай нацыянальнай школе адзінае выратавальнае выйсце з глыбокага крызісу. Гэта сумная і бясспрэчная рэальнасць, як бы мы ні ўпэўнівалі саміх сябе, якія б мы справаздачы ні пісалі, якія б шыльды ні вывешвалі, але школа сёння гаворыць па-руску.

Колькі яшчэ і зараз настаўнікаў — верных гадаванцаў застою. Пераконваць іх бессэнсоўна — і ветэранаў, і маладзейшых. У адказ абавязкова пачуеш, раней было бедна, але ж весела. Дагуляліся, давесяліліся да татальнага бяспамяцтва.

Шырокаму ўдзелу настаўнікаў у справе адраджэння замінае няведанне імі роднай мовы, адсутнасць новых беларускамоўных падручнікаў, абыякавасць большасці кіраўнікоў школ да нацыянальных пытанняў, іншыя фактары. Так, паўсюдна былі створаны моўныя курсы для настаўнікаў. Але ішлі туды па камандзе, каб адпаведныя пасведчанні атрымаць. А выкладаць свой прадмет па-беларуску, несці роднае слова да вучняў большасць, як і ўчора, не можа. Напрыклад, у Беларускай політэхнічнай гімназіі (былая СШ № 6) г. Менска, у Беларускай гуманітарнай гімназіі (былая СШ № 20), у СШ № 147 ёсць шмат настаўнікаў, якія маюць пасведчанні з правам выкладання на роднай мове. Але выкладаюць свае прадметы па-беларуску ўсяго некалькі чалавек. Кіраўнікі школ не паклапаціліся нават перавесці вядзенне школьнай дакументацыі на беларускую мову.

Пра гэтыя пытанні ішла размова народнага дэпутата Вярхоўнага Савета Алега Трусава на сустрэчах з настаўнікамі беларускай мовы, гісторыі і геаграфіі школ Савецкага раёна г. Менска. Алег Трусаў пазнаёміў прысутных з асноўнымі накірункамі дзейнасці Камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны, адказаў на пытанні, падкрэсліў неабходнасць шырокага ўдзелу настаўнікаў у супольнай працы на ніве нацыянальнага Адраджэння.

**Ала КАЖЭРА,**
**настаўніца СШ № 187 г. Менска,**
**старшыня настаўніцкага камітэта «Думка» пры ТБМ.**

# Дзейнасць суполкі аднаўляецца

**Пасля путчу і абвяшчэння незалежнасці я лічыў, што ТБМ сваю ролю адыграла. Але далейшыя падзеі на нашай палітычнай сцэне, асабліва апошніх месяцаў і дзён, пераконваюць. Ой як многа яшчэ наперадзе барацьбы за наша роднае слова. Мы аднаўляем дзейнасць ТБМ у Радашковічах. Будзем мэтанакіравана працаваць па адраджэнні нашай Бацькаўшчыны.**

**Дарэчы, чарговая сесія пасялковага Савета народных дэпутатаў прыняла рашэнне аб звароце да ВС РБ і Савета Міністраў аб вяртанні Радашковічам статуса горада, які мы страцілі ў 1940 годзе. На наступнай сесіі будзе вырашана пытанне аб вяртанні старых назваў вуліцам горада, ушанаванні памяці славутых землякоў. Мяркуем правесці вечарыну, прысвечаную ўгодкам БНР, адсвяткаваць 80-годдзе пастаноўкі «Паўлінкі» ў Радашковічах, арганізаваць лекторый па гісторыі горада і Беларусі... Задум многа, будзем працаваць. Мяркую, сувязь наша будзе сталай.**

**Мікола ЛІННІК,**
**старшыня бацькоўскай рады школы.**

*Сказана*

## «...Не толькі жыве чалавек хлебам або лекамі, але найбольш усялякім словам...»

***«...Я, Францішак, Скарынін сын з Полацка, у лекарскіх навуках доктар, загадаў Псалтыр ціснуці рускімі словамі славянскае мовы. Найперш — дзеля ўшанавання і хвалы Бога ў Тройцы адзінага і Прачыстай Маці яго Марыі, і ўсіх нябесных чыноў, і святых божых. А таксама — дзеля карысці паспалітага люду. І асабліва з тае прычыны, што мяне літасцівы Бог з гэтае мовы на свет пусціў...»***

*Набалелае*

# БТ у РБ

**На Беларусі зараз трансліруюцца чатыры тэлепраграмы: Беларускае тэлебачанне, каналы «Астанкіна», «Расія» і «Паказвае Санкт-Пецярбург». Такім чынам, адразу можна заўважыць, што наш эфір перапоўнены расійскімі праграмамі. І гэта пры тым, што нацыянальнае беларускае тэлебачанне нароўні з імі канкурыраваць пакуль не можа.**

**Шмат хібаў у БТ. Нават родная мова не з'яўляецца неад'емнай часткай яго перадач.**

**Увогуле, калі глядзіш праграмы дзяржаўнага тэлебачання, то ствараецца ўражанне, што неабходнасць весці перадачы па-беларуску найбольш замінае стваральнікам. Ды, пэўна, так яно і ёсць. Вядучыя нібы наўмысна шукаюць прычыны, каб перайсці на рускую мову. Асабліва гэта ўласціва тэледыялогам. У перадачах «Эканамічная хваля», «Тыдзень беларускага ўрада», «Кінаэкран года» усе гутаркі з беларускімі (падкрэсліваю, беларускімі) эканамістамі, палітыкамі, кіназеўчымі ідуць пераважна па-руску. Калі суразмоўцы могуць па нейкіх прычынах не ведаць беларускай мовы (хоць у такіх сферах веданне мовы — абавязак), то вядучыя проста павінны ёю карыстацца!**

**Гледзячы «Панараму», «НІКу», іншыя інфармацыйныя праграмы, часта проста губляешся: плакаць ці смяяцца. Пакуль гаворыць дыктар, усё яшчэ добра. Але затым пачынаюцца рэпартажы... Праўда, большасць карэспандэнтаў валодае мовай. Ды ёсць і такія, што хоць ім дапамажы. Часам хочацца спытаць: «Калі не можаш добра размаўляць па-беларуску, то навошта ішоў у тэлежурналісты?»**

**Гэта датычыць перадач, дзе родная мова ёсць, а на БТ пашыраны тыя, дзе няма яе ўвогуле: «Каралеўскае паляванне», «Тэлебіржа» і г. д.**

**Але дзяржаўнае ТБ павінна весці свае перадачы на дзяржаўнай мове. Калі ж аўтары не выконваюць згаданую ўмову, то няхай арэндуюць эфірны час на якім-небудзь недзяржаўным канале.**

**Варта дадаць, што пераважная большасць перадач БТ пакуль не ў стане канкурыраваць з перадачамі каналаў «Астанкіна» і «Расія». Ва ўсім свеце тэлекампаніі прываблiваюць гледачоў перш-наперш музычнымі праграмамі і тэлегульнямі. Што да тэлегульняў, то пад такую шыльду ў нас падыходзіць, відаць, толькі адна «крокаўская» «Пяць зорак». «Латарэя ўдачы», «Справа выпадку», «Вас запрашае спартландыя» тэлегульнямі не з'яўляюцца.**

**Музычных праграм яшчэ некалькі гадоў назад на БТ было зусім няшмат. Буйнейшая з іх — «Песню бярыце з сабою». Але ж яна — звычайны канцэрт, які запісваецца ў абласных ці раённых цэнтрах. Цяпер, дзякуючы ініцыятыве розных творчых калектываў, нарадзіліся новыя музычныя праграмы. Іх можна толькі вітаць. Але папулярнасць яны не завявалі, шмат тэлегледачоў нават не ведае пра іх існаванне.**

**Паколькі на БТ вельмі мала арыгінальных перадач, немалую долю эфірнага часу займае кіно. Ёсць рубрыкі для паказу фільмаў: «Відэасалон», «Кінанастальгія», «Сінема прадстаўляе», «Беларусьфільм прадстаўляе». Прыйшоў на БТ тэлесерыял «Мачаха». Усё б добра, ды толькі мастацкія фільмы павялічваюць і без таго жахлівы ўзровень русіфікаванасці вяшчання. У ідэале, вядома, трэба было б дубліраваць... Але ў бліжэйшым часе на гэта можна не спадзявацца. Нават мультфільмы для дзяцей дубліруюць толькі ў «Калыханцы».**

**Хацелася б згадаць і некаторыя добрыя перадачы Беларускага тэлебачання. Гэта тэлечасопіс «Роднае слова», праграма «Гаворым па-беларуску». Нядрэнныя перадачы іншы раз робіць студыя «Тэлесябрына». Напрыклад, мне спадабаліся праграмы, прысвечаныя Калядам. З музычных праграм можна назваць «З музыкай на Вы». На жаль, сёння недахопаў у БТ куды больш, чым здабыткаў.**

**Сяргей ПЕТРЫКЕВІЧ,**
**вучань VIII класа школы № 188.**
г. Менск.

*Але!*

# «Як не з'ем, дык хоцць укушу»

Гэты народны выраз прыйшоў мне на памяць, калі прачытала ў мазырскай газеце «Жыццё Палесся» артыкул рэдактара Ларысы Чорнай «Вызваляйцеся ад зла, людзі!». Заклік выдатны. З першых радкоў дыхнула жывой занепакоенасцю аўтара: сярод некаторай часткі нашага грамадства страчваецца маральнасць. Л. Чорная разважае: «Хамства, уніжэнне чалавечай вартасці стала паўсямесным і звычайным. Прывольна адчуваюць сябе падонкі, цяжка жывецца добраму чалавеку — вось яны, парадоксы сучаснасці».

Не будзем зважаць на лексічныя памылкі. Галоўнае — нельга не раздзяліць жывую занепакоенасць рэдактара становішчам сумленнага простага чалавека ў наш трывожны час. Але ж якое выйсце прапануе Л. Чорная з гэтага духоўнага тупіка? «Надышоў час,— піша яна, звяртаючыся да Вярхоўнага Савета,— паставіць на месца тых, хто страціў чалавечае аблічча, хто перашкаджае нам, нармальным людзям, спакойна жыць і выхоўваць дзяцей... — І раптам: — Хочацца заканчыць свой роздум радком з верша нашага земляка Уладзіміра Рудзінскага:

*Хай на рублях імчыць сабе Пагоня,*
*Няхай на іх разгульваюць звяры...*
*Прабачце: Ну і чорт яго бяры!*
(каго?—Н.А.) —
*Не азвярэць бы нацыі сягоння!*

Мне няма чаго да гэтага дадаць».

А мне ёсць. Бо, аказваецца,— прыехалі! Прычына падзення маралі, па логіцы Л. Чорнай, у суверэнітэце нашай дзяржавы! Я нешта не магу прыгадаць, каб пры наяўнасці артыкула № 6 у былой Канстытуцыі былой імперыі Л. Чорная пісала нешта пра дэвальвацыю духоўнасці грамадства. А яна ж існавала і шырылася! Л. Чорнай не пашкодзіла б прачытаць нарыс В. Казько «Азвярэнне» ў «ЛіМе», а не называць гэтага найсумленнейшага чалавека ў былым «Камунісце Палесся» «залётнай птушкай» Палесся. Ды відаць, яна таких рэчаў не чытае, у яе іншыя арыенціры. На іх яна самааддана і нацэльвае сваіх чытачоў, бо акрамя камуністаў, ніводны грамадска-палітычны рух горада, і найперш БНФ, не можа выказацца ў газеце «Жыццё Палесся». Старанна абыходзіць яна факты прыхватызацыі, нажывы капіталу партнаменклатурай і яе стаўленікамі. Нічога з таго, што надзвычай актуальна на сённяшні момант, што і стварае крымінагеннае становішча, у газеце не асвятляецца, затое ўсё больш і больш выданне становіцца рупарам камуністаў, усё больш рускамоўным, што з'яўляецца грубым парушэннем Закона аб мовах. Мой зварот у пракуратуру горада нічога станоўчага не даў — толькі адпіскі. Газета мэтанакіравана вядзе палітыку гаркама ПКБ, настойліва ўбіваючы ў свядомасць мазыран камуністычную ідэалогію, прапагандуючы «двухмоўе». І гэта пры загнаным, зганьбаваным стане роднай мовы! А колькі бруду газета ўжо выліла на нацыянальна свядомую інтэлігенцыю, у тым ліку на такіх апосталаў беларускага адраджэння, як Зянон Пазьняк, Васіль Быкаў, Алесь Адамовіч, Віктар Казько, на суверэнітэт рэспублікі! На жаль, адпаведныя дзяржаўныя службы ніяк не рэагуюць на падобную «дзейнасць» аматараў эсэсэсэраўскага камунізму».

Калі рабіць выгляд і далей, што гэта «дробязі пераходнага перыяду», то грамадства будзе спрыяць звароту адкрытага панавання тых, каму косткаю ў горле стаіць і беларускі суверэнітэт, і мова нашай святой зямлі.

**Ніна АКСЕНЧЫК,**
**кандыдат філалагічных навук, сябра ТБМ і БНФ.**

г. Мазыр.

*Але!*

# Навошта агляды маскоўскіх газет?

Узяцца за пяро мяне прымусіла беларускае радыё, а дакладней, рэгулярныя агляды перыядычнага друку, якія робяцца некалькі разоў на тыдзень. На маю думку, агляд павінен быць перш за ўсё аб падзеях у нашай беларускай дзяржаве, бо слухачу цікава, што ж пішуць свае рэспубліканскія, абласныя і раённыя газеты. Добра было б, каб гучала таксама крыху інфармацыі і аб найважнейшых падзеях у іншых краінах свету.

Але на беларускім радыё сіцела пераказваецца замест цэнтральных беларускіх выданняў, затым падрабязна — вядомых маскоўскіх газет. Калі жадаеце ведаць, што робіцца ў нашых братоў і суседзяў у Летуве, Польшчы, Латвіі, на Украіне, то пачакайце, шаноўныя слухачы, што скажуць аб гэтым расійскія выданні.

Узнікае пытанне, ці існуе ў нашых радыёжурналістаў мяжа непавагі да саміх сябе, да свайго ўласнага народа? Зразумела, можна адстойваць розныя думкі і погляды, але ж усё павінна рабіцца палюдску, прыстойна. Няўжо гэтага не разумеюць тыя, хто рыхтуе перадачы да эфіру?

**Ю. ЦЭХАНОВІЧ.**

Менск.

*Прапановы*

***Ці варта напамінаць, што ў нашых нацыянальных святынь — бел-чырвона-белага сцяга ды «Пагоні» шматвяковая гісторыя? Што «Пагоня» стала пераемніцай старажытнага герба Полацка — святога воіна-збавіцеля на кані? Што сярэбраны рыцар у доспехах з узнятым мячом ды шасціканцовым крыжам на шчыце на белым баявым кані быў на штандары Вітаўта (Віценя), які быў на чале Вялікага княства Літоўскага яшчэ ў 1293—1316 гады? Што сімвалы гэтыя натхнялі нашых продкаў у бітвах на Ворскле, калі былі спынены полчышчы татара-манголаў, а потым на Грунвальдскім полі?***

# «Святую Пагоню» — на цэнтральны пляц Менска

***Варта, каб не забывацца на самых сябе ў гісторыі. Помніць — адкуль мы і хто. Вось чаму патрыятычная грамадскасць Менска звярнулася з прапановай да гарадскіх улад: устанавіць на цэнтральным пляцы сталіцы рэспублікі велічны помнік — «Святую Пагоню». Як дзяржаўны сімвал незалежнасці і нацыянальнай годнасці беларускага народа. Ад гэтага месца пачынаць адлік кіламетражу ва ўсе канцы Беларусі.***

***Дарэчы, устаноўчы кангрэс беларускай шляхты ў 1992 годзе аднадушна прагаласаваў за адкрыццё помніка «Святой Пагоні».***

**Генадзь ЛАНЕЎСКІ,**
**ветэран вайны і працы.**

г. Менск.

# Трэба браць прыклад з летувісаў

***Часцяком можна пачуць, што няма сродкаў, каб перапісаць шыльды і ўсё падобнае па-беларуску. Выхад ёсць. Трэба браць прыклад з летувісаў. У друку было паведамленне, што пракуратура Летувы штрафуе тых кіраўнікоў прадпрыемстваў, якія не спяшаюцца пераводзіць справаводства на летувіскую мову. Уявіце сабе, колькі прыбытку атрымае наша дзяржава, зрабіўшы, як у Летуве. А пэрыядзе справаводства на беларускую мову, зробіць тое ж і кіраўнічы апарат. І будзьце ўпэўнены: як толькі ў дзяржаўных установах начальства пачне ўжываць беларускую мову, падначаленыя загавораць па-беларуску вокамгненна. Бо гэтак большасць прывучана.***

**Мікалай ЛЕНКАВЕЦ.**

г. Ганцавічы.

# СПАГНАННЕ... ЗА ПАТРЫЯТЫЗМ

Прачытаў у друку прыведзеныя на калегіі Міністэрства народнай адукацыі даденыя па выкананні Закона аб мовах. Згодна з паведамленнем намесніка міністра Л. К. Сухнат, 68,5 працэнта першакласнікаў рэспублікі пачалі год на роднай беларускай мове. Найбольш цяжка стварэнне нацыянальнай школы ідзе ў сталіцы. Тут 48,3 працэнта першакласнікаў, якія вучацца на беларускай мове. А ў нашай 194-ай сярэдняй школе Менска ўсё застыла на месцы. Калі ў 1991/92 навучальным годзе са 108 першакласнікаў у беларускі клас пайшло 20, то ў гэтым — са 112 — 21. І гэта ў пасёлку аэрапорта «Мінск-2», дзе школу наведваюць не толькі дзеці супрацоўнікаў аэрапорта, але і малыя з навакольных вёсак Смалявіцкага раёна. У чым жа тут справа?

Па-першае, шмат бацькоў-беларусаў маюць нізкую нацыянальную самасвядомасць. Яны, зыходзячы з уласнага жыццёвага вопыту, жадаюць, каб дзеці вучыліся па-руску. Па-другое, і гэта, відаць, галоўнае: дырэктар школы, карыстаючыся свабодай тарктоўкі Закона аб мовах, імкнучыся ўлагодзіць мясцовых русіфікатараў і выконваючы неафіцыйныя дырэктывы зверху, сабатуе справу пабудовы нацыянальнай школы.

Хочаце прыклады? Калі ласка... Быў дырэктарам нашай школы А. Д. Лантух, які ўпарта не жадаў адкрываць беларускамоўны клас. І напісаў у Камісію па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны Вярхоўнага Савета. І беларускамоўны клас адкрылі. Праўда, Лантух перасеў у дырэктарскае крэсла другой школы. А да нас прызначылі шчырага, на першы погляд, беларуса В. Г. Ананьку. Ён працаваў завучам адной з менскіх школ, з'яўляецца народным дэпутатам Кастрычніцкага раёна сталіцы, свaіх дзяцей аддаў у беларускамоўныя класы.

Здавалася б, што менавіта яму — маладому энергічнаму педагогу, якому давярае народ, трэба з душой выконваць законы дзяржавы. На жаль, на справе так не атрымалася. Скажыце, у якой яшчэ школе дырэктар укаў вынесці спагнанне намесніку па гаспадарчай частцы толькі за тое, што тая самастойна, без яго дазволу заказала і вывесіла ў вестыбюлі школы бел-чырвона-белы сцяг з гербам «Пагоня»? А ў нас было якраз так. Справу нават разбіралі на прафкаме школы. Праўда, нядаўна шыльды «Дырэктар», «Сакратар» і інш. у школе з'явіліся па-беларуску. Барацьба за ажыццяўленне ідэі нацыянальнай школы? Хопіць слоў. Патрэбны справы. Яганава Л. В. сказала, што на наступны год у беларускамоўныя класы пададзена 43 заявы. Ці не губляем мы сваіх Купалаў, Коласаў, Гарэцкіх?

Даруйце за філасофію. Але факты даю шчырым беларусам і сапраўдным інтэрнацыяналістам, хто пачувае сябе рускім ці палякам, украінцам ці яўрэем... і хоча ўсім дабра ў беларускай хаце.

**Мікола СЯНЬКЕВІЧ,**
**настаўнік гісторыі СШ № 109.**

г. Менск.

# *Гомельскае «адраджэнне»*

Да пачатку мінулага года ў Гомелі не было, здаецца, нічога, што б сведчыла аб Адраджэнні... Хіба шыльды эпохі «застою» сям-там памянялі, ды на тралейбусах з'явіліся напісаныя па-беларуску назвы маршрутаў.

Цяпер скіруем позірк на гомельскія газеты. Чаго толькі там не знойдзеш! Напрыклад, сур'ёзна сцвярджаецца, што Гомель — рускі горад, што ён толькі з 1926 года ў складзе Беларусі. А супрацоўнік Гомельскага краязнаўчага музея тав. Абадэнка адкрыта заявіў, што беларусаў увогуле няма. Праўда, яму прыгразілі судом, але справа на тым і скончылася.

Дацэнт Гомельскага дзяржуніверсітэта Рогалеў аказаўся больш асцярожным. Ён падкрэсліў, што Гомель — усходнеславянскі горад, што беларусы, украінцы і расійцы — гэта адна ўсходнеславянская народнасць. Ні болі ні менш! Той жа Рогалеў разам з сацыялагам Габелевай спрабавалі даказаць жыхарам Гомеля, што беларуская мова «неканкурэнтаздольная» ў параўнанні з расійскай.

Да 850-гадовага юбілею горада мясцовае выдавецтва «Сож» передрукавала кнігу Вінаградава «Гомель» (1900). Яна ўяўляе пэўную цікавасць для краязнаўцаў, але напісана з імперскашавіністычных пазіцый. А на новых паштоўках, прысвечаных гісторыі горада, — драпежны расійскі арол.

У Навабеліцкім жа раёне Гомеля напярэдадні юбілейных урачыстасцей так заспяшаліся «адрадзіцца», што на цэнтральнай вуліцы Ільіча (былая Чарнігаўская) на каменным барэльефе ў гонар У. І. Леніна павесілі «Пагоню». Потым, відаць, нейкі ветэран абурыўся і, на наступны ж дзень наш дзяржаўны герб адтуль знік.

Жыве Гомель, «адраджаецца» Гомель.

**В. ГОМЕЛЕЦ.**

# Не будзе ні панікі, ні здароўя

**У 30-ці кіламетровай зоне Ігналінскай АЭС у Браслаўскім раёне Віцебскай вобласці жыве 13 тысяч чалавек, а сістэма апавяшчэння з боку дырэкцыі літоўскай АЭС адсутнічае, і, калі што здарыцца, не будзе ў беларусаў ні панікі, ні здароўя.**

## УРОК ДЗЕВЯТЫ

*Вайскоўцам пра родную мову*

### ФАНЕТЫЧНАЯ РАЗМІНКА

1. Прачытайце скорагаворкі, запомніце, прагаварыце хутка тры разы.

* Ткач ткаў хустку на таку і хукаў на руку.

* Чорны-чорны грак прысніў:
Ноччу драч драча дражніў.

2. Прачытайце выразна верш Змітрака Астапенкі, захоўваючы правілы вымаўлення галосных, зычных і іх спалучэнняў.

* * *

Клянёмся любіць наш край!..
Паклянёмся, што ў нашых сэрцах
Не ўкрадзецца ні страх, ні адчай,
Ні спалох немінучае смерці.

Паклянёмся Радзіму любіць!
Яна з верай на нас паглядае.
У нашых сэрцах жыве й будзе жыць
Наша даўняя клятва святая!

### ПАЎТАРЭННЕ ВЫВУЧАНАГА

1. Прачытайце ўголас і растлумачце, чаму прыназоўнік **з** з рознымі словамі чытаецца па-рознаму.

| | |
|---|---|
| з вежы [з'] | з жыта [ж] |
| з гары [з] | з жалеза [ж] |
| з танка [с] | з шуму [ш] |
| з цэмры [с'] | з шышкі [ш] |

2. Прачытайце прыказкі і прымаўкі, захоўваючы правілы вымаўлення галосных, зычных ды іх спалучэнняў. У якой сітуацыі кожную з іх можна выкарыстаць?

Знайшоў сякерку пад лаўкай. Ні хаты, ні лапаты. І ў старой печы агонь добра гарыць. На сваёй лаве ніхто не скажа: «Адсунься». У дзіравым вядры не носяць вады. І на мулкім выспішся, калі спаць хочацца. Свая салома мякчэй чужой пярыны. Холадна ў хаце, хоць ваўкоў ганяй. Ад цяпла косці не баляць. Не печ корміць, а рукі. Усякай хаце па печы. У акне добра, а за акном яшчэ лепш. Добраму чалавечку добра і ў запечку. Сваю гразь дома апалосквай. Новае сіта на калочку вісіць, а старое пад лаўкай ляжыць.

3. Прачытайце верш Анатоля Грачанікава. Растлумачце правілы чытання выдзеленых слоў.

### Калі жывуць яшчэ бацькі

Калі жывуць *яшчэ* бацькі,
Заўсёды *знойдзеш* ты прытулак.
Яны — твой тыл і *паратунак*,
Калі *жывуць* яшчэ бацькі...

Для іх *заўсёды* ты *дзіця*.
Яны суцешаць і *ўратуюць*.
*І на сувой тваіго жыцця*
*Свайго жыцця не пашкадуюць*.
*І там, за далеччу гадоў*,
*Дзе* ім не *быць* з табою разам,
*Святая* іхняя *любоў*
*Асвеціць* шлях твой *цяжкім* часам.

4. Апішыце кватэру (хату), дзе прайшло Ваша дзяцінства.

5. Складзіце дыялог, выкарыстаўшы наступныя фразы.

— Вы ўжо атрымалі кватэру? (У Вас інтэрнат?)

— Дык жа зусім блізка ад вайсковай часці!

— У якім доме Вы жывяце?

— Гэта першы дом за ваенным гарадком?

— А які пад'езд?

— На якім паверсе Ваша кватэра?

— Ліфт ёсць?

— У Вас добрая кватэра? Колькі пакояў?

— Дзякую за запрашэнне. Днямі буду ў тых мясцінах і завітаю да Вас.

6. Зрабіце паведамленне паводле адной з прапанаваных сітуацый.

* Прапануйце дзецям прыбраць у кухні.

* Пахваліце дачку (сына) за добра прыбраную кватэру.

* Парайце сябру, як лепш абсталяваць пакой.

7. Паводле тэксту З. Сіцько «Нашы прашчуры неўры» адкажыце на пытанні:

* Якія археалагічныя помнікі знаходзяцца каля вёскі Мілаград Рэчыцкага раёна?

* Колькі падобных гарадзішчаў налічылі археолагі?

* Хто насяляў такія гарадзішчы?

* Дзе на Беларусі можна напаткаць паселішчы, назвы якіх нагадваюць пра неўраў?

* Хто такія былі ваўкалакі?

* Ці можна на падставе гэтых звестак сказаць, што неўры — нашы прашчуры?

8. Складзіце апавяданне па пачатку, дайце яму загаловак. Пачатак запішыце, каменціруючы знаёмыя арфаграмы.

Рота падыходзіла да балота, праз якое цягнулася грэбля. Старшы лейтэнант, асцерагаючыся налёту бамбардзіроўшчыкаў, загадаў павялічыць адлегласць між машынамі. Заднія танкі адразу пайшлі павольней. Калона стала расцягвацца.

Выявілася, што камандзір непакоіўся не дарэмна. Раптам...

9. Перакладзіце сказы на беларускую мову, карыстаючыся слоўнікам.

Строй — установленное Уставом размещение военнослужащих, подразделений и частей для их совместных действий в пешем порядке и на машинах. Шеренга — строй, в котором военнослужащие размещены один возле другого на одной линии.

## Тлумачэнне новай тэмы:

### Склад і націск

**Склад** — гэта гук або спалучэнне гукаў, якія вымаўляюцца адным штуршком паветра, што выдыхаецца.

Вымаўленне аднаго са складоў з большай сілай голасу называецца **націскам** *(дагаво́р, даку́мент, кварта́л, пасяджэ́нне, працэ́нт, прыкла́д, пры́клад)*.

Ёсць аднолькавыя беларускія і расійскія словы, у якіх націскныя склады не супадаюць, напрыклад, *адзіна́ццаць — оди́ннадцать, чатырна́ццаць — четы́рнадцать*.

#### ПРАВАПІС О, Э — А

Галосныя літары **о, э** ў беларускіх словах пішуцца толькі пад націскам: *ко́рань, дрэ́ва, цэ́гла, рэ́кі*. У ненаціскной пазіцыі замест **о, э** пішацца **а**: *кар*а́*ні, драўля́ны, цагéльня, рака́*.

Ненаціскное **о** захоўваецца на канцы асобных запазычаных слоў: *трыо, То́кіо*.

У словах іншамоўнага паходжання **э** пішацца і не пад націскам: *дэса́нт, рэспу́бліка, о́рдэн, рэко́рд, рэпетыцыя, рэцэпт*.

### ЗАМАЦАВАННЕ

1. Параўнайце пары слоў у беларускай і расійскай мовах. Спішыце і запомніце беларускія варыянты.

Абруч — обруч
асака — осока
вярба — верба
гліняны — глиняный
заводскі — заводской
зво́няць — звоня́т
каршун — коршун
крапіва — крапива
крупы (мн. л.) — крупа
маленькі — маленький
ме́сцы — места́
некато́рыя — не́которые
паверсе — поверху
пароўну — поровну

2. Змяніце словы так, каб замест **о, э** пісалася **а**. Узор; *дом — дамы, цэлы — цалейшы*.

| | |
|---|---|
| Двор — ... | дрэва — ... |
| мороз — ... | цэны — ... |
| воўк — ... | сэрца — ... |
| новы — ... | рэдкі — ... |
| чорны — ... | чэрствы — ... |

3. Прачытайце словы і запомніце ў іх націскныя склады, спішыце. Вусна прыгадайце расійскія адпаведнікі.

Рэмень, нажніцы, ласі, руку, галаву, стары, кроіць, нічога.

З трыма словамі на выбар складзіце сказы.

4. Спішыце тэкст, растлумачце вядомыя Вам арфаграмы. Затым асобна выпішыце выдзеленыя словы і падбярыце ім адпаведнікі так, каб замест літар **о, э** пісалася **а**.

З выхадам абодвух танкавых злучэнняў на магістраль аршанская *групойка* ворага аказалася *адрэзанай* ад тылу, страціла самы зручны шлях для адступлення. Нашы ж *войскі*, танкі пятай гвардзейскай арміі маглі проста рушыць да Барысава, да Бярэзіны.

Хоць не адступаў клопат пра тое, каб не даць *ворагу* прарвацца з Оршы на захад, каб не даць вырвацца з акружэння віцебскай групоўцы, хоць турботы нецярпліва вялі ўжо далей на захад, Чарняхоўскі чуў усё ж, як спадае нядаўні даўкі неспакой, які цісную усе дні. Што там потым ні будзе, цяпер ужо відаць: *фронт варожы* разбураны, разломаны. Самае цяжкае *зроблена*, і зроблена з поспехам. Цяпер трэба замацаваць поспех, развіць.

## Узбагачэнне слоўнікавага запасу і развіццё мовы

Весна — вясна
весенний — веснавы, вясновы
весной — увесну
влага — вільгаць
влажность — вільготнасць
влажно — вільготна
влажный — вільготны, волкі, вогкі
воздух — паветра
вьюга — завіруха, завея
вьюжить — веяць, месці
вьюжный — завірушны, завейны
гроза — навальніца
дождь — дождж
дождь моросит — дождж імжыць, імгліць
дымка — смуга
ехать в санях — ехаць на санях
жара — гарачыня
жарко — горача
зима — зіма
зимний — зімовы
зимой — узімку
зной — спёка, спякота
играть в снежки — гуляць (біцца)
изморозь — шэрань
изморось — імжа, імгла
каток — каток, коўзанка (разм.)
катиться под гору — з'язджаць з гары
кататься на санках — вазіцца на санках
коченеть — карчанець, дубець
лето — лета; бабье лето — бабіна лета
летний — летні
летом — улетку
лёд — лёд, родны склон — лёду, ільду
лужа — лужына, калюга
метель — мяцеліца, завіруха, завея
мокрый — мокры
мокро — мокра
мокнуть — мокнуць
мокнущий — які (што) мокне
мокреть — макрэць
молния — маланка, бліскавіца
облако — воблака
под облаками — пад небам
до облаков — да неба
осень — восень
осенний — восеньскі
осенью — увосень
оттепель — адліга
радуга — вясёлка
ручей — ручай
снег — снег
снеговой — снегавы
снегурочка — снягурка
снежинка — сняжынка
снежит — снег ідзе
сосулька — лядзяш
сугроб — гурба, сумёт
сырость — сырасць, макрата
сырой — сыры
таять — раставаць
тёплый — цёплы
туман — туман
туманный — туманны
туча — хмара
яркий — яркі (о пламени), зыркі

## ДЛЯ ЦІКАЎНЫХ

### Першыя абарончыя збудаванні

У канцы I тысячагоддзя да нараджэння Хрыста і ў першых стагоддзях нашай эры на гарадзішчах паўночнай і цэнтральнай Беларусі ўзнікла даволі складаная сістэма штучных умацаванняў. Гарадзішчы, якія знаходзіліся на мысе пры сутоку рэк, з напольнага боку сталі ўмацоўвацца магутнымі валамі ды равамі ў 2-3 і больш радоў. Гарадзішчы астраўнога тыпу ўмацоўваліся кальцавымі валамі, якія насыпалі на схілах ці ля падэшвы гары ў адзін або ў некалькі радоў. Каб прадухіліць абсыпанне валоў, іх схілы абкладаліся дзёрнам, каменнямі даволі значных памераў, глінай, часам слоем жэрдак або тонкіх бярвенняў.

Асаблівa цікавыя помнікі ў Панямонні, Тураўскай зямлі, дзе шмат гарадзішчаў правільнай круглай формы. Яны сведчаць пра цесныя культурныя сувязі гэтых раёнаў з заходнеславянскім светам — Чэхіяй і Польшчай.

Абарончыя збудаванні IX—XI стагоддзяў таксама падпарадкоўваліся ўласцівасцям прыроднага рэльефу. Але адначасна з працэсам складвання самастойных княстваў у другой палове XI — першай палове XIII стагоддзя на беларускіх землях адбыліся пэўныя змены ў развіцці планавых тыпаў абарончых збудаванняў. У Полацкай зямлі, у прыватнасці, пачалі будавацца круглыя ўмацаванні. На землях жа Панямоння захаваліся некаторыя асаблівасці і будаўнічыя традыцыі — тут, як і раней, узводзіліся круглыя збудаванні з канцэнтрычнымі валамі.

Старажытныя беларускія гарады мелі дрэва-земляныя ўмацаванні. На валах стаялі сцены ў выглядзе вастраколу або ў выглядзе рубленых вянцом тынаў з адной вежай-брамай. У насыпах валоў некаторых гарадоў ужываліся каменна-гліняныя канструкцыі ў выглядзе падпорных сценак, а таксама складаныя драўляныя канструкцыі, як у Менску, Пінску, Давыд-Гарадку, Ваўкавыску.

**Паводле Міхася Ткачова.**

*Згадкі*

# «СВАБОДА, СВАБОДА І ЯШЧЭ РАЗ СВАБОДА!»

У часы так званай «перабудовы» проза з дазволу камуністычных вярхоў часта пісала пра «мільёны бязвінных ахвяр», якія ў 30-ыя гады сталі вязнямі сталінскага ГУЛАГа. Весці гаворку пра іншых — не бязгрэшных перад уладаю, а тых, хто спасціг антынародную сутнасць бальшавізму і спрабаваў супрацьстаяць яму — не рэкамендавалася. Паводле логікі верных ленінцаў, без віны закатаваныя заставаліся нашымі, савецкімі людзьмі, тыя ж, што адважваліся на змаганне з чырвонай чумой, назаўсёды заносіліся ў чорныя спісы.

Адным з гэтых «ворагаў» быў беларускі юнак Аўген Калубовіч, выпускнік педтэхнікума, арыштаваны ў 1930 годзе за прыналежнасць да падпольнай нацыяналістычнай арганізацыі альтруістаў і засуджаны на тры гады сібірскіх лагераў.

Зусім не спадзяванні на «родную ўладу» ці на вусатага крамлёўскага горца жывілі душы васемнаццацігадовага Аўгена і ягоных таварышаў па камеры ў Гомельскай турме. Зняволеныя складалі і завучвалі на памяць новую «канстытуцыю» рэспублікі: «Дзяржава мае назоў БССР, ці поўнасцю — Будуйце Самі Сваё Рабства. Ганаровае права мець грамадзянства БССР належыць дзвюм катэгорыям ейных жыхароў: тым, хто ўжо арыштаваны, і тым, хто будзе арыштаваны. Дзяржава ўрачыста гарантуе: права на працу — у вынайдзеных Леніным і Сталіным для росквіту сацыялістычнага грамадства канцэнтрацыйных лагерах; права на адпачынак — у спецыяльна абсталяваных дамах адпачынку, якія капіталістычная прапаганда называе турмамі; права на смерць — ад кулі ў патыліцу...»

Аўгену Калубовічу лёсіла пазбегнуць бальшавіцкай кулі. У гады Другой сусветнай вайны ён быў сярод беларусаў, якія, аднолькава ненавідзячы і чырвоны і карычневы фашызм, імкнуліся скарыстаць любы гістарычны шанц дзеля будучай незалежнасці Бацькаўшчыны. Таму большую частку свайго веку яму выпала жыць пад небам чужыны. Таму толькі цяпер пачынае вяртацца да нас ягоная багатая літаратурная і навуковая спадчына.

Пражыўшы трацціну стагоддзя ў Амерыцы, Аўген Калубовіч так і не прыняў замежнага грамадзянства. Ён, як і незабыўная Ларыса Геніюш, памёр грамадзянінам Беларускай Народнай Рэспублікі.

У дзень 55-годдзя абвяшчэння БНР ён запісваў у сваім дзённіку: «Беларусь! Тваё месца ў маім сэрцы нікім не занятае. І з вольнага свету я ніяк лепей бачу, што табе нестае ўсё тых жа трох рэчаў: свабоды, свабоды і яшчэ раз свабоды!»

**Уладзімір АРЛОЎ.**

**АД РЭДАКЦЫІ:**

**Успаміны Аўгена Калубовіча «На крыжовых дарогах», урыўкі з якіх мы прапануем чытачу, пісаліся з пачуццём абавязку і адказнасці перад сваім народам і гісторыяй. Аўтар паставіў задачу «расказаць пра масавую гібель беларусаў у савецкіх турмах і канцэнтрацыйных лагерах». Матэрыял збіраўся не адно дзесяцігоддзе. Чарнавыя накіды былі зроблены яшчэ ў Менску, пасля выхаду «на волю», калі пісаць было смяротэльна небяспечна. Працу ён завяршыў на чужыне. Апублікаваў яе спярша ў эміграцкім часопісе «Беларуская думка», а затым выдаў уласным коштам у Кліўлендзе (1986).**

**Як і трэба было чакаць, задума ў працэсе рэалізацыі перарасла рамкі мемуарнага жанру. Апісанне асабіста перажытага займае ў кнізе сціплае месца, затое работа рэпрэсіўнай машыны сталінізму, гісторыя стварэння сістэмы савецкага ГУЛАГа (з дадаткам карты), акцыі «раскулачвання» сялян, знішчэння «нацдэмаў» і разгрому Беларускай царквы, кампанія «пратэстаў» супраць «буржуазной клеветы о принудительном труде в СССР», арганізаваная вядомымі спецслужбамі, падаюцца аўтарам грунтоўна і доказна, са спасылкамі на дакументы, невядомыя на той час савецкім жыхарам (маюцца на ўвазе людаедскі загад Леніна правесці ў краіне «бязлітасны масавы тэрор, а падазроных заперці ў канцэнтрацыйны лагер» (1918), «Пастанова аб чырвоным тэроры» (1918) і інш.).**

**Аўтар стаіць на пазіцыях аб'ектыўнага і сумленнага летапісца, калі імкнецца ўсё ўбачанае, спазнанае на ўласным вопыце, пачутае ад іншых, адшуканае і выяўленае ў розных крыніцах перанесці ў сваю гісторыю, каб не прапала праўда, якой бы жудаснай яна ні была. Кніга пісалася і з намерам данесці да нашчадкаў імёны і справы беларускіх дзяржаўных дзеячаў, пісьменнікаў, вучоных, асветнікаў, якіх паклікала за сабой другая хваля Беларускага Адраджэння і якія затым былі абылганы і выкінуты з жыцця такім чынам, каб пасля іх у народнай памяці не засталося і следу. Так, у раздзеле «Саюз вызвалення Беларусі» падаюцца добра распрацаваныя біяграфічныя даведкі пра былых дзяржаўных і палітычных дзеячаў БНР, дзяржаўна-палітычных дзеячаў БССР (аўтар іх называе «нацыянал-камуністамі»), пісьменнікаў, навукоўцаў, працаўнікоў асветы, арыштаваных і бадай цалкам знішчаных у дваццатыя-трыццатыя гады. Звесткі пра трагічны лёс удзельнікаў Слуцкага паўстання, прадстаўнікоў сялянства, духавенства і іншых дзеячаў беларускай культуры і літаратуры раскіданы па ўсіх раздзелах кнігі. Рэалізацыю вялікай задумы Аўгена Калубовіча можна прыраўняць да высокага грамадзянскага ўчынку.**

Год 1939. Сфатаграфаваліся маладыя сябры-літаратары на ўспамін. Злева направа: Аўген Калубовіч, Рыгор Няхай, Алесь Бачыла, Пімен Панчанка. Яны яшчэ не ведаюць, што праз два гады іх раздзеліць вайна. Калубовіч застанецца на акупаванай немцамі Беларусі і потым апынецца ў эміграцыі, астатнія трое будуць змагацца супраць гітлераўскага фашызму са зброяй у руках.

***«І жаўнеры завялі яго на панадворак, званы Прэторыя, і склікалі ўсю роту... І білі Яго па галаве трысцінай, і плявалі на Яго... І, калі, насмяяліся... павялі Яго, каб укрыжаваць...на Галгофу, што значыць Лобнае месца».***

**Евангелле Св. Марка, XV:16, 19-20, 22.**

***Дарога гэтая ішла да самае Сібіры.***

***У 1930 г. здавалася, што па ёй гналі ўсю Беларусь, каб там, на той Сібірскай галгофе, з ёю і пакончыць. Гналі не рымскія жаўнеры з дзідамі і мячамі, а маскоўскія з стрэльбамі і сабакамі. Гналі і гналі... Удзень і ўначы, у сцюжу і ў спёку. Праз перасыльныя пункты і турмы. З кожнага сяла і места.***

***Асабіста для мяне яна пачалася ад Бабчына.***

***АЎГЕН КАЛУБОВІЧ***

## РАССТРЭЛЫ

...Найбольш мяне ўзрушыў расстрэл Корзунаў.

Калі іх прывялі ў маю «адзіночку», было ўжо далёка за поўнач. Па шыбах акна сцёбаў дождж. Яны былі мокрыя, з іх цякло: бацька і сын з-пад Васілевічаў. Абодва малыя ростам, худыя. Бацьку — гадоў 40, сыну — 16.

Іх прывялі ад следчага ГПУ, які крычаў на іх: «Вашае сяло не ідзе ў калгас, бо ты не ідзеш. Мы расстраляем цябе і сына, тады ўсё сяло пойдзе... Нам нужно сломать сопротивление. И мы ни перед чем не остановимся».

Гэта быў іхны першы і апошні «допыт».

Корзун — не кулак, і яго нат не «раскулачылі». З ягонага апавядання выглядала, што ён — проста разумны і паважаны на сяле гаспадар, які адмовіўся ісці ў калгас. У дзень арышту яго зноў выклікалі ў сельсавет, дзе за сталом, апрача старшыні сельсавета і сакратара, сядзелі ўпаўнаважаны райкома партыі і афіцэр ГПУ.

Упаўнаважаны паказаў яму на стале два спісы: у адзін запісвалі тых, хто (пад пагрозамі!) згаджаўся ісці ў калгас, у другі — хто адмаўляўся.

— Ты задерживаешь нам всю музыку. На цябе глядзяць іншыя.

Корзун пацвердзіў сваю адмову.

З-за стала выскачыў афіцэр ГПУ, схапіў свой рэвальвер і пачаў махаць ім перад носам Корзуна.

— З табою ў нас размова будзе кароткая. Падпішашся тут, у гэтым спісе, што не хочаш ісці ў калгас. Але памятай: будзеш варочаць карчы ў Сібіры!

Наступнага дня, псіхічна прыбітыя, яны нічога не елі, не пілі. Сядзелі на падлозе і думалі свае думы. Бацька часам шавяліў вуснамі, быццам пацішу маліўся.

Уначы, калі ў турме настала трывожная цішыня, на калідорах пачуўся такі тупат ног, што можна было падумаць — па бруку ідзе цэлая рота жаўнераў. Яшчэ міг, і дзверы нашыя загрымелі перуновым звонам.

У камеру ўвайшоў дзяжурны па турме Паўлаў і афіцэр ГПУ. Пры дзвярах стаялі чатыры наглядчыкі.

У руках Паўлава паперы, каго трэба браць на расстрэл.

— Твоя фамилия?

— Твоя?

— А твоя?

— Выходи на коридор! — загадаў Паўлаў Корзунам.

— За што ж гэта? Скажыце, людцы, за што?.. — залямантаваў бацька. Падскочыў да сына, абняў яго. Тады ўзняў накутніцкі твар на Паўлава:

— Мо... я адзін пайду?

— Не рассуждать! Давай выходи!

Разгубіўшыся, ён яшчэ кінуўся шукаць па камеры сваю шапку, якая была на ягонай галаве і ўжо не была яму патрэбнай.

- Давай выходи! Быстро! — штурхнуў яго Паўлаў у бок дзвярэй.

Корзун рашуча павярнуўся да яго і сказаў:

— Ну... то вядзіце! Пайшлі, сынку!

На калідоры звычайна смяротнікам скручваюць рукі назад, у рот (каб не крычалі) укладваюць гумавую пробку — «кляп». Скрыгат і віск дзвярэй, бразгат ключоў і замкоў, грукат ботаў заглушылі ўсё. Да маіх вушэй дайшоў толькі тупат васьмі пар ног. Я прыклаў вуха да «ваўчка»: тупат усё аддаляўся і аддаляўся, накуль зусім не знік. Дзве пары ног рабілі ў ім свае апошнія крокі.

## ВАР'ЯТ

Я не ведаю: ці таму, што ў «адзіночцы» я застаўся адзін, а «жылплошчы» ў турме бракавала, ці ГПУ было зацікаўлена ў тым, каб мяне хтось «пазабаўляў», ці з якіх іншых меркаванняў,— праз ноч пасля таго, як Корзунаў забралі на расстрэл, да мяне ў камеру прывялі вар'ята.

Голеная галава. Зусім босы. У белай споднай бялізне. Наогул, увесь белы, як прывід.

Вар'ят паўтараў адзін і той жа сказ: «Што вы, сволачы, робіце?» Гэты сказ ён шаптаў, гаварыў, крычаў, але толькі адзін гэты сказ і болей нічога. Мажліва, сведамасць ягоная спынілася на гэтым сказе, дзесь запісаным у мазгу, як кожны запіс на патэфоннай кружэлцы.

Вось ён прысеў у куце камеры і пачаў гутарыць сам з сабой — упаўголаса ці шэптам. Так, нібы разважае ці кагось пераконвае. Што ён гаворыць, я не магу разабраць: да мяне ягоныя словы не даходзяць. Урэшце, ён павышае голас і ўжо пачынае на кагось крычаць, махаць рукамі, і тады я чую ўсё той жа сказ:

— Што вы, сволачы, робіце?

Але сядзіць ён рэдка. Пераважна бы́ў у руху, у дзеянні.

Вось падыходзіць да дзвярэй-кратаў, кладзе на іх свае цяжкія і дужыя рукі, з усяе сілы трасе. Краты звіняць, а ён з ярасцю раздражнёнага льва крычыць на поўны голас:

— Што вы, сволачы, робіце?

Дзіўна: турэмныя наглядчыкі не звярачваюць на яго ўвагі.

Або вось падыходзіць да парашы, за ручкі падымае яе высока ў паветра, носіць па камеры і ўжо шэптам да кагось гаворыць:

— Што вы, сволачы, робіце?

Я змарыўся сачыць за ягонымі рухамі, саступаць яму з дарогі. Гэта ж вар'ят! Ён не кантралюе сваіх учынкаў і не адказвае за іх. А ну ж трэсне парашаю па галаве. Фізічна ён шмат дужэйшы за мяне: вышэйшы, шырэйшы ў плячах.

На другія суткі небарака доўга плакаў. Тады палез на краты акна, разбіў шкло і да вартавога, які стаяў на вежы сцяны, закрычаў:

- Што вы, сволачы, робіце?

Вартавы выстраліў. Вар'ят зваліўся на падлогу, сцякаў крывёю і з стогнам ціха паўтараў свой сказ:

— Што вы... сволачы... робіце?..

З камеры яго хутка забралі.

Увечары П. Крэшчыхін паведаміў мне, што вар'ят памёр. Ён ужо не першы раз у турме, і яны яго добра ведаюць. Гэта быў «герой грамадзянскай вайны». П. Крэшчыхін назваў ягонае прозвішча.

*(Працяг будзе).*




*Рубрыку вядзе*

*Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

Шэдэўры сусветнай паэзіі па-беларуску (50)
У першай чвэрці дзевятнаццатага стагоддзя імем і творамі Аляксандра Пушкіна (1799—1837) сказала сваё важкае слова і руская паэзія...

*Аляксандр ПУШКІН*

## Пасланне ў Сібір

У глыбіні сібірскіх руд
Гартуйце гордае цярпенне:
Не згіне плён цяжкіх пакут
І дум высокае імкненне.

Няшчасця верная сястра,
Надзея у капальні глістай
Вам будзе зоркай прамяністай,
Настане лепшая пара:

Гарачая любоў да вас
Шлях знойдзе праз лясы і горы,
Як вашы катаржныя норы
Знаходзіць вольны мой наказ.

Аковы цяжкія спадуць,
З цямніц адкрыецца дарога,
Вас воля стрэне ля парога,
І меч браты вам аддадуць.

Пераклад з рускай
Юркі ГАЎРУКА.

## Да А. П. Керн

Я помню дзіўнае імгненне:
Узнікла ты перада мной,
Як прыгажосці чыстай геній,
Лятунак мроі незямной.

У безнадзенасці журботнай,
У хвалях шумнай мітусні
Мне чуўся голас твой пяшчотны,
Я доўга вобраз мілы сніў.

Ды час мяцежны, час грымотны
Рассеяў рэха даўніх мрой,
Забыў я голас твой пяшчотны,
Падобны небу вобраз твой.

Быў у глушы няволі ценем
Азмрочан дзён маіх працяг,
Без святасці і без натхнення,
Без слёз, кахання і жыцця.

Ды наступіла абуджэнне.
І вось ты зноў перада мной,
Як прыгажосці чыстай геній,
Лятунак мроі незямной.

І сэрца б'ецца ў захапленні,
Зноў расхінаюць небыццё
Былыя святасць і натхненне,
Каханне, слёзы і жыццё.

* * *

На ўзвышшы Грузіі апала ноч імглой;
Арагвы шум перада мною.
Журботна-лёгка мне, і смутак светлы мой;
Напоўнен ён табой адною,
Табой, адной табой... Тугу маіх надзей
Нішто не мучыць, не трывожыць,
І сэрца зноў гарыць, кахае, як раней,
Бо не кахаць яно не можа.

Пераклад з рускай
Васіля ЗУЕНКА.

# Фёдар ЯНКОЎСКІ: «Жыві, наша слова!»

Напярэдадні 1993 г. выдавецтвы «Вышэйшая школа» і «Навука і тэхніка» зрабілі добры падарунак усім тым, хто цікавіцца пытаннямі мовазнаўства і фалькларыстыкі, выдаўшы ў свет зборнік артыкулаў навукоўцаў кафедры беларускага мовазнаўства МДПІ «Моўныя адзінкі і кантэкст» і зборнік «Беларускія прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы» (выданне 3-яе, дапрацаванае, дапоўненае), укладзены Фёдарам Міхайлавічам Янкоўскім. Абедзве кнігі леглі ў вянок рупліваму і сумленнаму вучонаму, шчыраму патрыёту Беларусі.

Як адзначаецца ў прадмове да першага зборніка, пад кіраўніцтвам Ф. Янкоўскага шмат гадоў на кафедры распрацоўвалася адна праблема: «Слова, фразеалагізм, словазлучэнне». Вынікам плённых даследаванняў сталі штогоднікі «Беларуская фразеалогія і лексікаграфія» (1985), «Слова і фразеалогія ў кантэксце» (1983), «Купалава і Коласава слова» (1981) і многія іншыя. Зборнік «Моўныя адзінкі і кантэкст» — апошні з дагледжаных і адрэдагаваных Фёдарам Міхайлавічам пры яго жыцці. У ім даецца філалагічнае асвятленне моўных фактаў: раскрываецца своеасаблівасць і непаўторнасць стылю пісьменнікаў, іх роля ў актуалізацыі і ўзбагачэнні выяўленчых сродкаў беларускай літаратурнай мовы, даследуецца сувязь слова ў жывой народнай мове, у кантэксце беларускіх пісьмовых помнікаў. Упершыню зроблена спроба вырашыць адну з самых складаных праблем сучаснай лінгвістычнай навукі — асэнсаваць эстэтычную функцыю мовы. У асобным артыкуле асвятляецца навуковая і педагагічная спадчына Ф. М. Янкоўскага («Руплівы даследчык і выдатны педагог»).

Цікавая гісторыя зборніка «Беларускія прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы». У ім змешчаны «Словы складальніка» да першага і да другога выданняў (1957, 1962), што дазваляюць прасачыць, як на працягу многіх гадоў збіраліся Фёдарам Міхайлавічам творы беларускай народнай мудрасці, колькі было перабрана і вывучана дзеля гэтага друкаваных крыніц (выданні П. Шпілеўскага, І. Насовіча, М. Федароўскага, Е. Ляцкага, Е. Раманава, Я. Карскага, П. Шэйна, Р. Шырмы, Я. Рапановіча і многіх іншых), па якому прынцыпу сістэматызаваўся і адбіраўся матэрыял па тэмах. Першае выданне ўключала каля 5700 народных твораў, другое каля 7900. Адзначым, што трэцяе выданне «Беларускіх прыказак, прымавак, фразеалагізмаў» Ф. Янкоўскага перавышае другое на 10 ул.-выд. аркушаў. Калі зборнік «Моўныя адзінкі і кантэкст» убачыў свет стараннямі Ніны Васільеўны Гаўрош, то апошняе выданне Фёдара Янкоўскага «Беларускія прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы» ажыццёўлена стараннямі і клопатамі яго жонкі і паплечніцы Серафімы Андрэеўны Янкоўскай. Шкада, што яе такі вялікі ўклад у справу падрыхтоўкі апошняга выдання не адзначаны выдавецтвам.

Уступны артыкул да зборніка напісаў Уладзімір Калеснік. У ім мы знаходзім узважаны аналіз навуковай і грамадскай дзейнасці Фёдара Міхайлавіча, што ва ўмовах жорсткай палітыкі дэнацыяналізацыі ратаваў як мог ад пагібелі роднае слова, пакінуў па сабе багатую духоўную спадчыну. Па-майстэрску разглядаецца ў артыкуле жанравая спецыфіка вуснага народнага твора, у якім матэрыялізавалася «ў сцісле і зіхоткім слове народная душа, філасофія жыцця, апраўданне чалавечай прысутнасці на зямлі, абгрунтаванне сэнсу індывідуальнага, асабістага і грамадскага, гістарычнага існавання», які з'яўляецца «духоўнай хартыяй народа, яго пашпартам на нацыянальную тоеснасць і несмяротнасць у свеце».

Шчырай падзякі заслугоўваюць усе, хто прыклаў клопаты і старанні для выдання гэтых кніг.

Э. БЛІНАВА.

*Чыталі?*




# Беларускі падручнік эсперанта

**Міжнароднай мове эсперанта ўжо больш за сто гадоў. У 1887 годзе яе стварыў акуліст з Беластока Людвік Лазар Заменгоф. Адзін з першых беларускіх эсперантыстаў — Янка Маўр. Міжнародную мову вывучалі таксама іншыя нашы пісьменнікі: Цішка Гартны, Максім Танк, Сяргей Новік-Пяюн.**

**І сёння на Беларусі назіраецца пэўная цікавасць да міжнароднай мовы эсперанта. Ёсць нават свае паэты-эсперантысты. У Мазыры — Уладзімір Данілаў, у Гародні — Леанарда Волкава, у Менску — Людміла Сільнова, Ігар Беляўскі, Ала Фрыдман. Таму не дзіва, што выдавецтва «Навука і тэхніка» нядаўна падаравала грунтоўны практычны дапаможнік Адама Паўлюкаўца «Мова эсперанта». У першым раздзеле «Эсперанта на Беларусі» аўтар падрабязна распавядае пра выпрабаванні, якія ў свой час трэба было адолець міжнароднай мове. У другой частцы кнігі пададзены граматычныя правілы эсперанта. Трэці раздзел — «Вучэбныя практыкаванні і тэксты». У чацвёртым раздзеле змешчаны паэтычныя творы беларускіх эсперантыстаў і творы беларускіх паэтаў у перакладзе на эсперанта. Дапытлівага чытача ў кнізе чакаюць сустрэчы з вершамі Паўлюка Багрыма, Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа і іншых паэтаў. Дапаможнік завяршаецца эсперанта-беларускім слоўнікам. Кніга выдадзена накладам у чатыры тысячы паасобнікаў.**

К. С.

*Нашы славутыя землякі*

# СЫМОН БУДНЫ: «УСТАНЬ АД СНУ, ПАРА АБАЧЫЦЦА!..»

*(Заканчэнне. Пачатак на с. 4).*

Гуманістычная рэфармацыйная ідэалогія, паслядоўным дзеячам якой з'яўляўся Будны, магутна паўплывала на дэмакратызацыю законаў нашай Айчыны. Рэфарматы прапагандавалі новы погляд на чалавека і грамадства, імкнуліся юрыдычна абараніць правы асобы, заканадаўча замацаваць новыя гуманістычныя адносіны паміж грамадзянамі. І гэта ім удалося. Праўныя кодэксы — Літоўскія Статуты 1566, 1588 гг. выразна адлюстравалі рэфармацыйныя ідэі, дзякуючы патрыятычнай дзейнасці князёў Радзівілаў, Астафея Валовіча і пазней Льва Сапегі. Сымон Будны выступаў за правы прыватнай уласнасці: «Каб кожны чалавек маетнасць сваю меў у моцы сваёй. І адзін у аднаго каб хітрасцю, здрадай, неняньем і якім іншым звычаем не браў» (Катэхізіс). Самааддачае, ахвярнае служэнне асветніцтву народа Будны пранёс праз усё сваё жыццё. Ягоныя тэалагічныя, палемічныя, сацыялагічныя творы, на жаль, не сабраныя і не перавыдадзеныя ў Беларусі, а таму недаступныя шырокаму колу чытачоў і даследчыкаў. Юбілейная гадавіна, уключаная ЮНЕСКА ў каляндар памятных дат у на 1993 год для ўшанавання асветніцкай дзейнасці Сымона Буднага праходзіць у Беларусі звыш сціпла. Нягучная навуковая канферэнцыя ў Акадэміі навук, еамадзейная вечарына ў Доме літаратара, на якой не знайшлі патрэбным прысутнічаць міністры ані культуры, ані адукацыі. Вось, здаецца, і ўся наша памяць, уся павага да мінулага. Не стасуецца гэта неяк з вяртаннем да еўрапейскай цывілізацыі. Не чуваць галасоў з боку навукова-асветных цэнтраў або Міністэрства культуры пра неабходнасць ушанаваць гістарычныя мясціны, асвечаныя падзвіжніцкай дзейнасцю Буднага, Кавячынскага, Радзівіла, Валовіча, Валана, Цішкевіча ды іншых славутых беларускіх дзеячаў. Занядбаныя, разбураныя або закрэсленыя гвалтоўным чынам беларускія рэфармацыйныя традыцыі ў Заслаўі, Берасці, Слуцку, Уздзе, Смаргоні, Койданаве. Непавага да мінулага Бацькаўшчыны сведчыць, што мы скаціліся да варварства, аказаліся не ў стане крытычна асэнсаваць свой гістарычны шлях і зрабіць так патрэбныя сёння высновы.

Беларускія культурныя традыцыі, здаецца, больш шануюць у Германіі, дзе сёлета на сродкі Бонскага універсітэта мяркуецца ажыццявіць факсімільнае выданне нясвіжскага Катэхізіса Сымона Буднага.

Лявон ЛІПЕНЬ.

## ДА ВЕДАМА ЧЛЕНАЎ РЭСПУБЛІКАНСКАЙ РАДЫ ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ІМЯ Ф. СКАРЫНЫ

26—27 сакавіка г.г. у Менску (**Дом літаратара, Фрунзе,** 5) адбудзецца III з'езд ТБМ.

Запрашаем Вас прыняць удзел у рабоце з'езда. Пачатак а 10-ай гадзіне раніцы. Рэгістрацыя з 9.00.

Іншагародніх просім паведаміць аб магчымасці прыезду ў Менск, а таксама аб зацікаўленасці ў гасцініцы.

Камандзіровачныя расходы — за кошт камандзіруючых арганізацый.

Тэлефоны для даведак: 33-25-11, 33-13-52.

АРГКАМІТЭТ.

## *Калі за адраджэнне мовы, чытай, спадарства, «НАША СЛОВА»!*

*Пачалася падпіска на выданні на другую палавіну 1993 года, якая складаецца з кошту выдання і затрат на паштовыя паслугі.*

***Падпісная цана на 1 месяц — 18 рублёў***
***на 3 месяцы — 54 рублі***
***на 6 месяцаў — 108 рублёў.***
*Індэкс* ***«НАШАГА СЛОВА» — 63 865.***

## БЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ КАЛЯНДАР

### «Не зямля родзіць, а год»

*Красавік* — сярэдзіна вясны. Назва паходзіць ад слоў «краскі» (кветкі), «красаваць» — цвісці. Гэта час бездаражы і паводак. Надвор'е няўстойлівае: маразы чаргуюцца з гарачынёй.

Існаваў земляробчы абрад першага выхаду ў поле — *заворванне.* Араты з коньмі выходзіў у поле, апрануты ва ўсё чыстае, узяўшы з сабой хлеб, соль і ваду — згодна з павер'ем, яны перадавалі зямлі сваю сілу. Селянін заворваў дзве-тры баразны і вяртаўся дамоў, дзе яго чакаў святочны стол з абрадавым пячэннем. Пачыналіся палявыя работы ў залежнасці ад розных прыкмет: прылёту з выраю птушак, цвіцення пэўных раслін, стану глебы і надвор'я.

*Прымаўкі, прыказкі, прыкметы:* «Не зямля родзіць, а год», «Вясна вочы крадзе», «Красавік ваду падбірае, красачкі пускае», «Красавік з вадою — май з травою», «Красны красавік цяплом, а жнівень дабром», «Страчанага дня вясною не купіш», «Не лічы кветачкі вясною, а лічы ягадкі восенню». Парады: Сеяць трэба з першай квадры да поўні; жаба голас падала — сей авёс; з'явяцца камары — сей жыта; не сей пшаніцу наперад дубовага ліста.

***26 красавіка — Дзень памяці Чарнобыля.***

1 (чацвер). **Ун.** *Марыя Егіпцянка.*

**Пр.** *Праведная Сафія, княгіня Слуцкая.*

2 (пятніца). **Ун.** *Ціт-цудатворац.*

3. **Ун.** *Субота Лазара.*

4 (нядзеля). **Кат., Ун.** *Вербніца.* Уваход панскі ў Ерусалім. Асвячэнне ў храмах вярбы, што сімвалізуе пальму. Усе дні тыдня — ад Вялікага панядзелка да Вялікай суботы — людзі рыхтуюцца да Вялікадня. Асабліва значэнне мае Вялікі, або так званы Чысты чацвер, калі людзі мыюцца, прыбіраюць жылыя памяшканні, гаспадарчыя будынкі, двары.

7 (серада). **Пр.** *Дабравешчанне (Благавешчанне, Звеставанне)* Найсвяцейшай Багародзіцы. Са святам звязана шмат прыкмет: дождж — да ўраджаю жыта і грыбоў; цёплае надвор'е — да сухога лета і марознай восені; снег з дажджом — да мокрага лета. У гэты дзень адзначаецца язычніцкае свята *«Гуканне вясны».*

11 (нядзеля). **Кат., Ун.** *Вялікдзень. Уваскрэсенне панскае.* Вялікае хрысціянскае свята. У ноч з суботы на нядзелю ідзе набажэнства, на якім асвячаюцца прадукты і вада, раніцай вернікі разгаўляюцца пасля посту.

Старажытнае веснавое свята ў гонар сонца, да якога пазней было прымеркавана свята хрысціянскае. Ад Вялікадня ўсе дні тыдня завуцца: Светлы панядзелак, Светлы аўторак, Светлая серада, Светлы чацвер, Светлая пятніца, Светлая субота.

Бытавыя прыкметы Вялікадня: фарбаванне яек-пісанак (крашанак) і хаджэнне па хатах валачобнікаў (ралешнікаў, ралейнікаў), якія ў песнях славілі гаспадароў, жадаючы ім усялякага дабра.

**Пр.** *Вербніца. Уваход Госпада ў Ерусалім.*

12. **Кат.** *Вялікі панядзелак.*

14 (серада). **Пр.** *Мар'я.* Паводка ў гэты дзень — на добрую траву.

15 (чацвер). **Пр.** *Палікарп.* Паводле народнага календара — пачатак бясхлебіцы.

16 (пятніца). **Кат., Ун.** *Дзень Багародзіцы, невычэрпнай крыніцы ласкаў.*

18 (нядзеля). **Пр.** *Вялікдзень. Светлае Хрыстовае Уваскрэсенне.*

**Кат.** *Свята міласэрнасці.* **Ун.** *Нядзеля Тамаша.*

21 (серада). **Пр.** *Радзівон (Ірадзіён).* Добрае надвор'е ў гэты дзень — на добрае лета, дрэннае надвор'е — на непагодлівае лета.

22 (чацвер). *Вялікдзень мёртвых.* Ушанаванне ў раёнах Палесся памяці нябожчыкаў на могілках.

23 (пятніца). **Ун.** *Юры велікамучанік.*

24 (субота). **Пр.** *Анціп.* Прысвятак знахароў, якія замаўляюць зубы. У народзе кажуць: «Анціп ваду распусціў», «Калі на Анціпа суха — лета будзе неўраджайным».

25. **Ун.** *Нядзеля міраносцаў.*

27 (аўторак). **Пр.** *Радаўніца.*

28. *Градавая серада.* Забаранялася выконваць земляробчыя работы, каб град не пабіў пасевы.

**Ун.** *Дзень Кірылы Тураўскага, біскупа.*

**Пр.** *Андрэй.* Сяўба канапель.

29 (чацвер). *Ірына.* Сяўба капусты на расаду.

30 (пятніца). **Пр.** *Засім.* Апякун пчол. У гэты дзень пчаляры ставілі вуллі ў прыдатных для мёдазбору мясцінах.

**Ун.** *Дзень Якуба апостала.*

**Мілан ТОДАРАЎ**

### *Афарызмы*

Пры сацыялізме два на два — чатыры. Пры капіталізме таксама. Але... якая розніца!

У папярэднім развіцці дасягнуты фантастычныя вынікі, што абавязвае нас і далей прытрымлівацца сюррэалізму ў працы.

У нас няма фата-марганаў, таму што мы свае пустыні аснавалі на дыялектычным матэрыялізме.

Не можа краіна проста так прападаць. На гэта існуе сістэма.

Колькасць падазроных расце з дня ў дзень. Асабліва насцярожвае той факт, што гэта адны і тыя ж асобы.

У нас абсалютная свабода слова. Калі дазволіце, я скажу пра гэта і яшчэ нешта.

Усе, хто нешта ведае, званіце ў паліцыю.

Мы ўсім сябры, падабаецца гэта каму ці не.

Не хвалюйцеся. Мы, і ў цяжэйшых сітуацыях апынуўшыся, не маглі знайсці выйсця.

Лепшай будучыні няма. Наша будучыня найлепшая.

**Пераклаў з сербскахарвацкай Іван ЧАРОТА.**

## Народная лякарня

### *Д. ДЖАРВІС: Нацыянальныя асаблівасці людзей і народная медыцына*

(Працяг. Пачатак у №№ 9, 10, 11).

Для характарыстыкі тыпу людзей ужываюцца два тэрміны — *чалавек становчага тыпу* (або *сям'я становчага тыпу*) і *чалавек адмоўнага тыпу* (або *сям'я адмоўнага тыпу*). Першы тэрмін адносіцца да людзей, чые клінічныя паказчыкі адпавядаюць норме; другі тэрмін адносіцца да тых, чые клінічныя паказчыкі ніжэй за норму. Да такіх паказчыкаў адносяцца: частата пульса і частата дыхання (у мінуту), тэмпература ў роце ў здаровым стане і крывяны ціск. Ні аднаго чалавека нельга аднесці да становчага або адмоўнага тыпу адназначна. Здавальняючым лічыцца, калі той або іншы чалавек у адпаведнасці з данымі медыцынскага абследавання (анамнезу) належыць да аднаго з двух названых тыпаў на 60—80 працэнтаў. Адмоўны тып характарызуецца наступнымі асаблівасцямі: да 25-гадовага ўзросту ён вельмі актыўны і энергічны, ніколі практычна не стамляецца. Можа працаваць з раніцы і да ночы, дапазна забаўляцца або заседжвацца за якім-колечы заняткам, а на другі дзень прачынацца з новымі сіламі. Аднак надыходзіць такі час, калі пачуццё стомленасці не знікае пасля ночы. Актыўнасць і энергія часткова страчваюцца. Паўсядзённая праца не прыносіць, як было дагэтуль, маральнага задавальнення. Нават пасля фізічнай работы застаецца адчуванне прытупленасці мозгу. У такім разе чалавек павінен заняцца фізічнай трэніроўкай, садоўніцтвам або якой іншай (любімай) працай, што выклікае пачуццё маральнага задавальнення і дазваляе вярнуцца да працоўных абавязкаў з новай энергіяй. Бо толькі любімы занятак у час, калі чалавек стомлены і маральна прыгнечаны, здольны вярнуць яму сілы.

*Для людзей адмоўнага тыпу* характэрна частая змена настрою, раздражняльнасць, злаславасць. Калі чалавек адчувае сябе добра, у яго добры сон, яму не замінае шум у доме і на вуліцы. Пры дрэнным самаадчуванні ў такога чалавека сон парушаецца, і раніцой ён устае з пачуццём слабасці, недамагання. Далей сімптомы нездароўя могуць нарастаць: пачынае непакоіць боль галавы, асабліва з боку патыліцы, чэшацца ў розных месцах скура, нямеюць уначы рукі (як «адлежаныя»). У халоднае надвор'е хочацца цяплей апрануцца (мерзнуць рукі і ногі), а летам, калі горача, узнікае адчуванне стомленасці і нежадання працаваць. Найлепш такі чалавек адчувае сябе ў цёплае і прахалоднае надвор'е. Ён аддае перавагу цёплай ежы і падагрэтай злёгку вадзе (не студзёных і не гарачых). Ён часта прастуджваецца, «нажывае» хранічны катар дыхальнай сістэмы. Часам з'яўляецца непрыемнае адчуванне цяжару ў правым падрабрынні. Бываюць галавакружэнні, адрыжка і пякотка пасля яды. Дзён дрэнных бывае больш, чым добрых. Аднак жывуць гэтыя людзі доўга, больш за 80 гадоў.

(*Працяг будзе*).

## У рэдакцыйны фонд «Нашага слова» ахвяравалі:

**Айцец Ян Матусевіч — настаяцель грэка-каталіцкай абшчыны — 2000 рублёў.**

**Беларуская Эвангельская Царква — 500 рублёў.**
**Спадар Даніловіч — 50 долараў ЗША.**
**Спадар Мітрафан Смаршчок — 25 долараў ЗША.**
**Спадар Міхась Белямук — 25 долараў ЗША.**
**Спадарыня Шарэпа-Лапіцкая — 100 рублёў.**

## НА ХВАЛЯХ БТ

**24 САКАВІКА**

**18.30. Навіны Бі-бі-сі.**
**20.10. Студыя МЭТА.**
**21.00. Панарама.**
**22.50. На сесіі ВС Рэспублікі Беларусь.**

**25 САКАВІКА**

**18.30. Навіны Бі-бі-сі.**
**19.45. Тыдзень беларускага ўрада.**
**20.10. Студыя МЭТА. На шляху да незалежнасці. Перадача 4-ая.**
**21.35. «Крок» прадстаўляе...**
**23.35. На сесіі ВС Рэспублікі Беларусь.**

**26 САКАВІКА**

**18.30. Навіны Бі-бі-сі.**
**19.40. Гаворым па-беларуску.**
**20.10. Студыя МЭТА. На шляху да незалежнасці. Перадача 5-ая.**
**23.10. На сесіі ВС Рэспублікі Беларусь.**

**27 САКАВІКА**

**13.30. Адраджэнне. Менскія адрасы БНР.**
**19.30. Студыя МЭТА. На шляху да незалежнасці. Перадача 6-ая.**
**21.00. Панарама.**
**23.00. НІКа.**

**28 САКАВІКА**

**11.00. Шматгалоссе. Народы Беларусі.**
**14.40. Для дзяцей. Літарынка.**
**19.30. Студыя МЭТА. На шляху да незалежнасці. Перадача 7-ая.**
**20.00. Панарама.**

Рэдактар Эрнэст Ялугін.
Сябры рэдакцыйнай калегіі: Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Ніл Гілевіч, Уладзімір Дамашэвіч, Алесь Камароўскі, Анатоль Клышка, Алег Куліцкі, Уладзімір Ламека, Уладзімір Содаль, Алесь Траяноўскі, Генадзь Тумаш, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Міхась Шавыркін.
Адказны сакратар Віктар Шніп.

Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны.
Наш адрас: 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83.
Індэкс 63865.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае. Наклад 8507 паасобнікаў.
Зак. 264.

Падпісана ў друк 22.03.1993 г. у 15 гадзін.
МВПА імя Якуба Коласа.
Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка». 220079, г. Менск, 1-ы Загарадны завулак, 3.